Альгэрдам збудаваны быў драўляны праваслаўны манастыр. У XVI стагодзьзі на гэтым самым месьце пабудаваў князь Канст. Астрожскі мураваны манастыр. Пасьля Берасьцейскай вуніі перайшоў гэты манастыр у 1609 годзе на ўласнасьць уніятаў Базыльянаў, а ў 1839 г. вярнуўся ізноў на ўласнасьць праваслаўных беларусаў, уласнасьцяй якіх і па сёняшні дзень зьяўляецца. Ад 1919 г. ў манастырскіх будынках месьцяцца са згоды адпаведных царкоўных уладаў наступныя беларускія інстытуцыі: 8-мёх клясовая гімназія, музэй, прытулак К-т Помачы ахвярам вайны і да апошніх часоў 4-х клясовая пачатковая школа. У гэтым-жа манастыры знаходзіцца праваслаўная духоўная сэмінарыя

Пасьля заняцьця Вільні польскаю ўладаю Дэлегат Ураду на Віленшчыну п. В. Роман бясправўна сваею пастановаю з 26-га чэрвеня 1923 году перадаў гэтую ўласнасьць дзяржаве, быццам апіраючыся на дэкрэт п. Жэлігоўскага, як Галоўнакамандуючага Войскам Сярэдняй Літвы, пад № 349. Праваслаўная кансісторыя апратэставала гэтую пастанову, і нават польскі акружны Суд у Вільні прызнаў слушнасьць праваслаўнае кансысторыі, сваім прыгаворам з 26-га траўня — 2-га чэрвеня 1925 г. справы № С 193/1924 г., паклікаючыся на тое: „што спорная ўласнасьць не падлягала канфіскацыі расейскаю ўладаю, а як з часоў уніяцкіх, так і потым станавіла ўласнасьць Сьв. Траецкага манастыра ў Вільні, які па скасаваньні ўніі перайшоў з уніяцкага на праваслаўны, і затым Дэлегат Ураду няправільна да спорнай нерухомасьці застасаваў вышэй успомнены дэкрэт і спорную нерухомасьць забраў у сваё валаданьне, што дзеля гэтага і просьба манастыра вярнуць яму ў валаданьне спорную нерухомасьць павінна быць прызнана „слушнай“, пастанавіў: „Прызнаць праваслаўнаму Сьв.-Траецкаму манастыру ў Вільні права ўласнасьці на нерухомасьць, паложаную ў Вільні пры Конскай вул. № 18, узяць успомненую нерухомасьць спад валаданьня Скарбу Дзяржавы ў асобе Дэлегатуры Ураду на Віленшчыну і аддаць яе ў валаданьне праваслаўнаму Сьв.-Траецкаму манастыру ў Вільні, ды засудзіць на карысьць Праваслаўнай Кансысторыі ў Вільні ад Скарбу Дзяржавы 200 зл. коштаў абароны“.

Ня гледзячы на гэты прыгавор суда, польская ўлада ўсялякімі шляхамі стараецца забраць у сваё валаданьне гэтыя манастырскія муры, выкідаючы з іх беларускія і праваслаўныя ўстановы.

Гэтак, у 7 гадзіне раніцы 22-га кастрычніка сёл. году, калі беларуская пачатковая школа № 33, якая займала памяшчэньне беларускага прытулку К-ту Помачы Ахвярам Вайны, мелася перайсьці ў другое мейсца, у Сьв.-Траецкі манастыр зьявіўся ведамы п. Студніцкі з паліцыяй, каб заняць пад архіў памяшчэньне Т-ва Помачы Ахвярам Вайны.

Апіраючыся на паперу № 21021 Куруторыуму Віленскага Школьнага Вокругу да япіскапа Антонія, пазваляючую яму заняць памяшчэньне пасьля школы, і ўпразуменьні з Старшынёю Белар. К-ту Помачы Ахвяр. Вайны п. Астроўскім, да якога, згодна з умоваю, памяшчэньне належыць да 15/VIII 1926 г., праваслаўная духоўн. сэмінарыя заняла гэтае памяшчэньне, зьмяшчаючы там інтэрнат.

На гледзячы на пратэст з боку Старшыні К-ту, а таксама і япіскапа Антонія, які ўраз-жа выехаў да Дэлэгата Ураду,—паліцыя на падставе загаду Камісара Ураду п. Вімбора гвалтам выкінула ўсе рэчы, выносячы ложкі разам з ляжаўшымі на іх сэмінарыстамі. Сэмінарыстаў, якія не хацелі дабравольна выйсьці з свайго памяшчэньня, і асоб з інспэкцыі сэмінарыі паліцыя сілком выпхнула ў калідор.

Такім чынам было занята памяшчэньне, у якім 5 гадоў мясьціўся беларускі прытулак, ды якое толькі ад 8 да 2 гадзіны аддавана было для карыстаньня пачаткавай школе. Паліцыя выкінула з прытулку ўсіх дзяцей, кіраўніцтва прытулку і нават сэнатара Багдановіча, які ў той дзень дзяжурыў у прытулку. Дзеці былі змушаны разьмясьціцца ў халодным калідоры, бо памяшчэньне апячатана і пастаўлена паліцыйская варта.

У працягу 2-х тыдняў пільнаваў апячатанае памяшчэньне паліцыянт з ружжом у руках, а дзеля таго, што памяшчэньне гэтае знаходзіцца ў баспасярэднім суседстве з клясаю,—паліцыянт сядзеў у клясе ў шапцы на галаве ў часе лекцыяў, што перашкаджала нармальнаму ходу вучэньня.

Цяпер паліцыянта забралі, а дзьверы памянутых чатырох пакояў апячатавалі і павесілі на іх замкі.

Беларускі К-т Помачы Ахвярам Вайны, хочучы не дапусьціць да бясправўнага заняцьця гэтага памяшчэньня мясцоваю ўлады, павесіў побач з павешанымі ўладаю — свае замкі, якія аднак былі разьбіты па загаду таго-ж Студніцкага, на дзьвярох-жа памяшчэньня павесілі зусім бясправўна картачку з напісам „Archiwum Państwowe“

З гэтага паступаньня ўлады можна заключыць, што Дэлегат Ураду пастанавіў забраць памянутае памяшчэньне, не сьцясьняючыся матывам праўнае натуры

Гэтая думка апіраецца на сумным досьледзе, бо падобны выпадак здарыўся ўжо ў мінулым годзе. У гэтым будынку займаў два пакоі служачы беларускай гімназіі. Мясцовыя ўлады, паведамленыя спэцыяльна назначаным імі ў гэтыя муры сторажам аб выхадзе гэтага служачага, бясправўна занялі гэтае памяшчэньне для Акруговай Дэрэкцыі Публічных работ і пасадзілі там якогасьць западозранага тыпа, бяз выразнага занацьця. Грамадзкая думка лічыла яго за прыглядаючэга за жыцьцём беларускіх інстытуцый — з вызначэньня адміністрацыйных ўладаў, і з яго прысутнасьцяй зьвязвала знаходжаньне ўвосені 1925 г. дынамыту пад царквою ў гэтых будынках.

Мясцовыя ўлады бяссумліўна паставілі сабе мэтаю адабраць у беларусаў, хоць-бы шляхам розных падходаў і бясправўя, гэты будынак, у якім зьмяшчаюцца культурна-дабрачынныя беларускія інстытуцыі. Для прыкладу хоць-бы гэткі факт: у адзін з пакояў гэтага будынку, займанага эканомам сэмінарыі дзіяканам Каліпскім, перайшоў з дазволу рэктара гэтае-ж сэмінарыі япіскапа Антонія, другі дзіякан. У той час, як гэты новы кватарант ўнёс свае рэчы ў гэтый пакой, зьявіўся прадстаўнік улады, апячатаваў пакой і павесіў замок на дзьвярох. Ураз-жа зьявілася паліцыя і напісала пратакол аб адпячатаваньні памяшчэньня. А за тое, што п. Студніцкі разьбіў замок, павешаны на дзьвярох памяшчэньня беларускага прытулку, паліцыя не хацела напісаць пратаколу.

Рэктар праваслаўнае сэмінарыі ў Вільні, які сьмела і неадступна бараніў будынак кансысторыі перад паходам улады, польскаю ўладаю выкінуты з займанага ім да гэтай пары становішча і пераведзены ў Крэменец. Назначаны другі рэктар, у асобе якога ўлада спадзяваецца знайсьці свае павольнае аружжа.

У лучнасьці з паданым вышэй гвалтам, зробленым мясцоваю ўладаю 22.X. 1925 г. ў будынку кансысторыі, былі высланы ад К-ту Помачы Ахвявам Вайны і рэктара сэмінарыі тэлеграы да п. п. Мін. Справядлівасьці, Унутраных спраў і Рэлігійных Вызнаньняў, у зьмесьце якіх зазначана, што Акруговая Дырэкцыя Публічных Работ пры Дылегаце Ураду ў м. Вільні пры помачы паліцыі выкінула з памяшчэньня беларускага прытулку дзяцей, адміністрацыю і рэчы памянутага прытулку, што дзеці, дзякуючы гэтаму, зьмяшчаюцца ў халодным калідоры, што гвалтам выкінулі з гэтага памяшчэньня сэнатара Багдановіча, што стараліся выцісьнуць з будынку праваслаўнае кансысторыі сэмінарыстаў, адміністрацыю духоўнае сэмінарыі і гэт. п. Ад часу высланьня гэтых тэлеграмаў прайшло ўжо 2 месяцы, а адпаведныя ўлады не далі яшчэ ніякіх распараджэньняў у гэтай справе і памяшчэньне, бясправўна занятае п. Студніцкім, не аддана яшчэ па ўласнасьць праўных уласьнікаў яго. Інтэрпыляцыя паслоў Беларускага Клюбу ў гэтай справе, напраўленая да п. Міністра ўнутраных спраў II. XI. 25 г., таксама засталася да гэтай пары без рэзультату.

Дзеля гэтага інтэрпэлянты паноўна пытаюцца п. п. Міністр. Справядлівасьці і Унутраных Спраў:

1. Ці і якое распараджэньне маняцца выдаць, каб быў выкананы прыгавор Акружнага Суда ў Вільні з дня 26. V. — 2. VI. 25 г. у справе ўласнасьці праваслаўнае кансысторыі ў Вільні пры Вастрабрамскай вул. № 9?

2. Ці маніцца выдаць адпаведнае распраджэньне, каб ураз-жа зьнялі пячаць з дзьвярэй памяшчэньня і аддалі яго на ўласнасьць Беларускаму К-ту Помачы ахвярам вайны?

3. Ці будуць выданыя адпаведныя распраджэньні віленскім адпаведным уладам, каб на прышласьць выключыць вышэй апісаныя гвалты, і не дапусьціць да ўмешваньня мясцовых уладаў да кіраўніцтва ўласнасьцяй праваслаўнае кансысторыі?

Варшава 28 сьнежня 1925 г.

Інтэрпэлянты.

---

# Інтэрпэляцыя № 20

дэпутатаў Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п.п. Міністраў Пуб. Асьв. і Рэлігійных Вызнан. і Унутраных Спраў у справе сабатажу войтам Журавіцкай гм., Слонімскага пав., Навагрудзкага ваяв.—школьнага ўставу.

Беларускае школьніцтва ня можа карыстацца ўпоўнасьці нават тымі правамі, якія дае яму апошні школьны ўстаў, бо гмінныя войты адмаўляюцца пасьведчываць подпісы на дэклярацыях, у якіх бацькі дамагаюцца вучэньня пабеларуску ў пачатковых беларускіх школах.

Выпадкі гэтыя сыстэматычна паўтараюцца ў цэлым радзе гмін. Зьвярталіся мы ўжо ня раз да ўраду, што, аднак, не дало пажаданых рэзультатаў, а таму войты і далей бяскарна топчуць правы беларускай люднасьці, імкнучайся да школы з роднай мовай.

Апошні раз цяпер здарыўся выпадак у вёсках: Залесьсе і Загорнае Залесьсе, Журавіцкае гм., Слонімскага пав., Навагрудзкага ваяв.

Дня 8 сакавіка 1925 г. войт Журавіцкае гміны Гудовіч адмовіўся пасьведчыць подпісы на 46 школьных дэклярацыях, а таксама другі раз увосень і 6.XII 1925 г.,—у якіх бацькі дамагаліся для сваіх 62 дзяцей вучэньня ў роднай беларускай мове.

Дзеля гэтага ніжэйпадпісаныя пытаюць п.п. Міністраў:

1. Ці і якое распараджэньне маюць цяпер выдаць, каб на прышласьць выключыць самаволю войтаў, пазбаўляючую беларускіх дзяцей вучэньня ў роднай мове?

2. Ці войт Журавіцкае гм. будзе звольнены з свайго месца і пацягнуты да адказнасьці за злосны сабатаж уставу?

Залучнікі: Сьпіс людмасьці і 46 дэклярацыяў.

Варшава, дня 29 сьнежня 1925 г.

Інтэрпэлянты.

# Інтэрпэляцыя № 22

**дэпутата Рака-Міхайлоўскага і таварышаў з Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Публічнае Асьветы і Рэлігійных Вызнаньняў і п. Мін. Унутраных Спраў у справе сабатажу войтам Жухавіцкае гміны і самаўрадавага інспэктара на Нясвіскі пав.—уставаў, датычачых беларускага школьніцтва.**

На падставе распараджэньня Міністра Публічнае Асьветы і Рэлігійных Вызнаньняў з дня 7 студзеня 1925 г. да уставу з дня 31 ліпня 1924 г., а таксама на падставе распараджэньня Міністра Унутраных Спраў з дня 12 лютага 1925 г. ў справе пасьведчаньня гміннымі войтамі подпісаў на дэклярацыях сялян, дамагаючыхся школы,—сяляне—беларусы, жыхары в. Лукі, Жухавіцкае гм., Нясьв. пав. зьвярнуліся 19 сьнежня 1925 г. да войта свае гміны трэбуючы пасьведчаньня іх подпісаў на дэклярацыях у справе беларускае школы. Урадуючы ў той дзень заступнік войта Штыцько нібы на падставе распараджэньня самаурадавага інспэктара на Нясьвіс. пав. рашуча адмовіўся пасьведчыць подпісы.

Тады бацькі-дэкляранты ў ліку 66 асоб зьвярнуліся да прыехаўшага тады да гміны памянутага самаурадавага інспэктара з запытаньнем, ці фактычна выдаў ён гміне гэтакі загад. На запытаньне гэтае інспэктар ня даў адказу, але-ж сказаў, што „войт меў права не пасьведчыць подпісаў у мес. сьнежні, бо міністэрскага распараджэньня аб гэтым месяцы ня было“.

Ясна, што маем тут справу з сьвядомым і злосным сабатажам уставу: адміністрацыйныя і самаурадавыя ўлады, надужыцьці якіх не караюць вышэйшымі ўладамі і гэта ім праходзіць бяскарна, — не прапушчаюць ніякай магчымасьці, каб гвалціць уставы, якія маглі б часамі прынясьці беларускай люднасьці пэўныя карысьці.

Калі памянуты самаўрадавы інспэктар на Нясьв. павет ня будзе гэты раз пакараны за зробленае ім бясправўе—будзе гэта служыць доказам, што рабіў ён гэта на падставе тайных інструкцыяў Мін. Унутраных Спраў, якое падтрымлівае імкненьне школьных уладаў да аканчальнага задушэньня беларускага школьніцтва.

Жыхары в. Лукі, хочучы падаць дэклярацыі да 31 сьнежня 1925 г. — а гэтым самым хочучы, каб ўвосень 1926 г. адчынілі ў іх беларускую школу,—скіроўваюць праз наш клюб свае дэклярацыі да адпаведных Міністэрстваў.

З прычыны таго, што войты дамагаюцца, каб уласнаручныя подпісы дэклярантаў рабіліся ў прысутнасьці войтаў,—з прычыны сабатажу войтам Жухавіцкае гміны сваіх абавязкаў — дэклярацыі гэтыя бяз подпісаў.

Дзеля вышэй сказанага, пытаем паноў Міністраў:

1. Ці гатоў п. Мін. Унутр, Спраў пераслаць залучаныя тут 66 дэклярацыяў да Жухавіц і загадаць войту гэтае гміны, каб паклікаў дэклярантаў і пасьведчыў іх подпісы?

2. Ці гатоў п. Мін. Публ. Асьв. і Рэл. Выз. загадаць, каб школьны інспэктар на Нясьв. пав. прыняў памянутыя дэклярацыі пасьля пасьведчаньня іх у гміне, разглядаючы іх, як пададзеныя перад 31 сьнежнем 1925 г.?

3. Ці гатоў п. Мін. Унутр. Спраў пацягнуць да адказнасьці віноўных за бясправўе — заступніка войта Жухавіцкае гм. і самаўрадавага інспэктара на Нясьв. пав.?

4. Ці маніцца п, Мін. Унутр. Спраў выдаць адпаведны загад, які-б унемагчыміў падобныя факты на прышласьць?

Залучнікі: 66 дэклярацыяў.

Варшава. 30 сьнежня 1925 г.

# Інтэрпэляцыя № 23

**паслоў Пасольскаго Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Унутраных Спраў у справе канфіскацыі № 12 легальнай беларускай газэты „Беларуская Ніва“**

Неадначасна ўжо парушалі мы справу аб тых гвалтах і рэпрэсіях, якія зносіць легальная апазыцыйная беларуская прэса з боку Камісара Ураду на м. Вільню п. Вімбора.

Камісар Ураду на м. Вільню п. Вімбор і ня думае зьмяніць тактыку ў адносінах да беларускай прэсы.

Доказам гэтага служыць факт, што стаўся 30. XII. 1925 г., а іменна п. Вімбор сканфіскаваў № 12 апазыцыйнай беларускай газэты „Беларуская Ніва“ за зьмешчаныя там зусім аб'ектыўныя артыкулы — „За мінулы год“ і „Паміж Захадам і Усходам“.

Першы з гэтых артыкулаў—„За мінулы год“—гэта быў зусім аб'ектыўны агляд беларускага жыцьця тут у нашым краю і заграніцаю.

(Далей ідзе яго зьмест):

. . . . . . . . .   . . . . . . . . . . . . . . .

У другім артыкуле, за які была сканфіскавана газэта: „Паміж Захадам і Усходам” было зроблена зусім аб'ектыўнае параўнаньне гаспадарчага жыцьця на Захадзе і Усходзе. Канфіскацыя сталася толькі на падставе дадзеных, узятых з польскай газэты „Kurjer Polski“.

(Далей ідзе яго зьмест):

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З зьместу гэтых артыкулаў ніякае падставы няма, каб канфіскаваць газэту: але камісар Ураду на места Вільню п. Вімбор не перастае весьці пляновую і сыстэматычную рэпрэсыйную палітыку ў адносінах да легальнай, апазыцыйнай, беларускай прэсы.

Дзеля вышэй сказанага пытаем п. Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці маніцца ён пацягнуць да адказнасьці Камісара Ураду на м. Вільно п. Вімбора за гэтае бесперастаннае беспадстаўнае душэньне апазыцыйнае беларускае прэсы?

2) Ці маніцца ён нарэшцэ раз на заўсёды палажыць канец самаволі п. Вімбора?

3) Ці маніцца ён ураз-жа выдаць загад, каб ураз жа аддалі назад сканфіскаваны № 12 „Беларускае нівы“.

Варшава, 14 студзеня 1926 г.

Інтэрпэлянты.

Выдавец: Соймавы Клюб Беларускай Сялянска - Работніцкай Грамады. Друкарня Н. Левін і Сын Вільня, Нямецкая вул. 22.